# Ніва

**БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК**

№ 7 (1199) ГОД XXIV БЕЛАСТОК 18 ЛЮТАГА 1979 г. ЦАНА 60 гр.



**З рэпарцёрскіх запісак**

## Зімой у лесе

Ідзем праз заснежаны лес. Дарогу паказвае інжынер-ляснік **Мар'ян Дадура,** які з'яўляецца намеснікам надляснічага ў Жэдні. Пад нагамі роўнае, чыстае, белае, пушыстае снежнае пакрывала — аж сорамна таптаць яго. Стараюся ісці па слядах майго праваднiка, але і так за кожным крокам правальваюся аж за калені. Цяжка. Спыняюся, каб аддыхацца, а пры нагодзе, каб палюбавацца ўсімі гэтымі стройнымі соснамі і ёлкамі.

✲

Надлясніцтву Жэдня, як інфармуе мяне яго гаспадар, надляснічы **Славамір Пашкевіч,** падпарадкавана 23 тысячы гектараў дзяржаўнага лесу, а дадаткова яшчэ яно ахоўвае 10 тысяч гектараў прыватных сялянскіх лясных угоддзяў. Прастор вялікі, а працы яшчэ больш.

— Толькі ў гэтым годзе, — кажа надляснічы, — мы абавязаны паставіць розным дрэваапрацоўчым фабрыкам і камбінатам аж 50 тысяч кубічных метраў драўніны. Хопіць кароткі, усяго ледзь некалькідзённы перабой у працы, і... адразу тэлефоны аж пухнуць ад нервовых лаянак на тэму, што мы сабе думаем, прадукцыю на фабрыках падрываем... А ў нас цяпер аж на 30 працэнтаў менш пастаянных рабочых, чым было іх, скажам, пяць год таму назад, а лік сезонных рабочых за гэты час паменшыўся аж на 70 працэнтаў. Праўда, узрасла прадукцыйнасць нашых лясных рабочых. Пяць гадоў таму назад наш статыстычны рабочы дзень працы нарыхтоўваў два кубаметры дрэва, а цяпер ужо даходзіць да звыш 4. Гэта вынік механізацыі. Нягледзячы аднак на тое, у лесе працаваць цяжка, цяжка і мала атракцыйна з фінансавага боку. Для прыкладу, ляснічы, чалавек з сярэдняй прафесіянальнай падрыхтоўкай можа зарабіць у нас не больш як 3700 зл. у месяц.

Значыць, праца ў лесе гэта занятак больш для энтузіястаў, для сапраўдных любіцеляў лесу, чым для тых, хто шукае ў жыцці фінансавай нажывы.

✲

У лясной цішыні ўжо здалёк чуваць пранізлівы візгат механічнай пілы і што хвілінку гулкае рэха трэскам апавяшчае смерць чарговай паднебнай сасны, якая расла тут не менш паўстагоддзя.

— Сячэм лес, — інфармуе мяне інжынер Мар'ян Дадура, — у многіх раёнах нашага надлясніцтва, але найбольш на тэрыторыі будучага вадасховішча між Семяноўкай і Бандарамі.

Мы знаходзімся ў лясніцтве Казячы лес. Ідзем на зруб, дзе працуе звыш 20 чалавек. Здаўна вядома, што найлепшая па якасці драўніна з зімовай рубкі. І таму надлясніцтва намагаецца аж 40 працэнтаў свайго гадавога плана выканаць у першым квартале года. Дык трэба старацца, хаця цяжка. Хопіць дакрануцца да дрэва, а з яго сыплецца за каўнер назойлівы снегапад, неасцярожна ступіш кудысь убок і ўжо ў снезе аж па паясніцу. А працаваць трэба, бо акорд...

**Сяргей Бурса** ўжо 30 год не разлучаецца з лесам. Цяпер у яго руках высокаспраўная механічная піла. Яго сябры: Генрык Паўлюк, Анатоль Шыдлоўскі і Францішак Сэвёла — таксама выдатныя майстры сваёй прафесіі. У чырвоных касках для аховы галавы перад усялякімі нечаканасцямі крочаць яны ў першай лініі. За імі ідуць сезоннікі: Яўген Ярмоз, Мікалай Паўлоўскі, Ян Крук, Уладзімір Дарашкевіч, Аляксандр і Мікалай Савесцянюкі, Аркадзь Дрыгас ды іх сябры, разам 17 чалавек. Усе з навакольных вёсак. Пастаянна працуюць пры пабудове і рамонце дарог. Цяпер аднак на дарогах работы няма, дык іхняе прадпрыемства „пазычыла“ іх надлясніцтву. І вельмі добра, бо кожная пара рук у лесе цяпер вельмі патрэбная, а кожны селянін умее махаць сякерай.

✲

Вяртаемся назад у Жэдню. Па дарозе інжынер **Мар'ян Дадура** ветліва вітаец-

(Працяг на стар. 5)

Начытаўшыся Я. Леанчука і М. Шаховіча пра розныя вераванні людзей, я жыў з перакананнем, што найгоршы праклён — гэта пажадаць каму-небудзь, каб ён паламаў рукі ды ногі. Але з гэтай наіўнасці мяне вывела само жыццё. Мне давялося пераканацца, што ў Беластоку куды горшае за той праклён ёсць пажаданне: „Каб табе ў дзвярах ключ зламаўся!“

Ключоў тых да ўваходных дзвярэй было два і імі мая сям'я неяк абыходзілася: адзін горшы, што крыху засякаўся пры адмыканні, і другі — надта ж добры: адмыкаў і замыкаў хату, як па маслу. Але ж вазьмі як на тое: ударылі тыя страшэнныя маразы ды завірухі, што паў-Еўропы мала на той свет без пары не звялі, і ўсё ў дзверы мае хаты. Намерзлі дзверы, абледзянелі. Я раніцай да іх, круць-верць ключом, а ён — „хрусь!“ і асталіся ў маіх руках толькі кальцо ды шпень. І зламаўся той найлепшы ключ! Сэрца маё ёкнула, відаць, прадчула нядобрае. Я ж не ўпаў духам: горшым ключом адамкнуў неяк дзверы, без пары павыганяў дзяцей у школу, а жонку на работу, замкнуў хату ды бягом у горад.

Папёр у беластоцкі універмаг „Цэнтраль“, дзе знаходзіцца пункт паслугаў, у якім можна адразу дарабіць патрэбныя ключы. Забягаю туды, а там пуста, толькі вывеска: „Перапынак на хвілінку“. Павалэндаўся я па універмагу мінут дваццаць, заглядаю на пункт, а там тая ж самая вывеска.




На пункце нічога не змянілася праз гадзіну і праз дзве. Да трэцяй гадзіны пасля поўдня я ў „Цэнтралі“ не спускаў вачэй з варштату, але там нічога новага не паяўлялася. Пабег я на аўтобус ды хутчэй дадому. Там пад дзвярыма стаялі па калені ў снезе прадрогшыя да касцей жонка і дзеці. Упусціў я іх у хату, а сам зноў бягом у „Цэнтраль“ і там прадзяжурыў аж да закрыцця універмага, нікога на пункце паслугаў не ўбачыўшы. На другі дзень узяў я аднадзённы водпуск па прычыне сямейнага няшчасця і ўвесь дзень прадзяжурыў каля пункта паслугаў у „Цэнтралі“.

Дрыжачыя ад прастуды жонка і дзеці, калі я іх упускаў у хату, не маглі і слова прамовіць: страцілі галасы. На шчасце, наступныя два дні былі святочныя. Хоць сямейка цалкам расхварэлася, ляжала пад пярынамі, глытала пілюлі, кашляла, хрыпела ды войкала.

Пад канец другога святочнага дня жонка неяк паднялася з ложка і даволі энергічна ўзялася выбіраць з шафаў ды камодаў усё сваё, складваць у чамаданы ды вязаць у клункі. Пры гэтым яна прыгадала мне, што хоць дваццаць найлепшых сваіх год страціла з такім недарэкаю, як я, але далей не намерана пакутваць. Дзеткі пaглядалі на маці, павыцягвалі розныя рукзакі, чамаданчыкі ды торбачкі і таксама пачалі ўпіхваць свае рэчы. Ад поўнай катастрофы нашу сям'ю выратавала паведамленне па радыё і тэлевізіі аб аб'яўленні ўладамі стыхійнага бедства ва ўсёй краіне, спыненні працы ў многіх установах ды заняткаў у школах з-за марозу.

Наступнай раніцай, хоць аўтобусы не хадзілі, я ўсё ж прабіўся ў цэнтр горада і апынуўся ў „Цэнтралі“, цешачыся, што ўсё ж жонка ды дзеткі асталіся дома. Недзе пасля поўдня знікла вывеска на пункце паслугаў. Але мне, падбегшаму туды з трапечучым сэрцам, мілавідная паненка заявіла, што яна такіх, як мой ключоў не дарабляе, хоць яны і вылічаны ў аб'яве над пунктам. Ласкава паведаміла мне, што такія рэ-

(Працяг на стар. 5)

**Новыя вершы**

### ПАМЯЦЬ БОСЫХ НОГ

*Ёсць памяць босых ног,*
*І ўелiся ў яе*
*З ракі жыцця*
*трыснёг*
*І жвір, што стому п'е,*
*Сцяжынaчак спалох*
*І ўпартасці жарства.*
*Парог*
*З усіх дарог*
*Сталіцай хараства*
*Ад першых крокаў стаў*
*Для босых хадакоў.*
*Не шкадаваў атаў*
*Спадманны луг вякоў.*

*Трыпутніку далонь*
*Раіла боль бяды,*
*Шчымлівасці агонь*
*Бярог надзей сляды.*

*Хай памяць босых ног*
*Не страціцца нідзе*
*І на чужы парог*
*Цябе не завядзе...*

### У КРОНЕ ЧАЛАВЕЦТВА

*Я — інтэрнацыяналіст*
*І ў шумнай кроне чалавецтва*
*З тутэйшае галінкі ліст,*
*Той ліст,*
*Што некалі сарвецца,*
*Каб свой укрыць спрадвечны дол,*
*Каб стаць у роднай глебе прахам.*
*Хай сонца п'юць лісты наўкол,*
*Залётным птахам*
*Стаўшы дахам.*

*З пражылкаватага мяне*
*Няхай раса халодзіць дзюбы.*
*Мне добра ў роднай старане,*
*Мне свет зялёнай кронай любы.*

*Вятры скубуць мяне дарма.*
*І дужы я, й безабаронны,*
*І кроны без мяне няма,*
*Як і мяне няма без кроны!*

**Рыгор Барадулін**

**ФОТА ПА ЗАКАЗУ**

# CZERWONE GITARY



**Заказвалі:** Анна Семянюк з Райска, Гражына Кайдэвіч з Нараўкі, Гражына Енслаў са Стачка.




Дарагое Сэрцайка, мне 17 год, а майму хлопцу Юзіку 20. Ходзім мы ад нядаўна. Пазнаёмілася я з ім па тэлефону, калі званіла да аднаго хлопца і яго не застала. Ён падняў трубку і са мной гаварыў. Я яго бачыла і ён мне спадабаўся. На другі дзень сказаў, каб я прыйшла і яшчэ адна дзяўчына, якая была са мной. Каб мы прыйшлі на спатканне. І мы пайшлі. Ён прыйшоў на лыжах. Тады мы гаварылі, а пасля ён падышоў да мяне і паціху сказаў, каб я адна прыйшла на спатканне з ім. Я яму сказала, што прыйду. Калі я прыйшла ў пяць гадзін, ён таксама прыйшоў, але я не адважылася да яго падыйсці. Не ведаю чаму. Ад гэтай пары я яго не бачыла. І калі да яго пазваніла, ён сказаў, каб на другі раз прыйшла, калі ён прыходзіць.

Сэрцайка, парай, што рабіць, ці пазваніць яшчэ да яго, ці не? Я б хацела з ім спаткацца.

Эля В.
з Гайнаўкі

**Эля В.!** Ты яшчэ маладзенькая і адтуль у цябе гэтая сарамлівасць. Думаю, праз гэта ты і не прыйшла на гэтае спатканне. Да Юзіка можаш яшчэ пазваніць і пры аказіі скажы, што і тады ты прыйшла, толькі не адважылася да яго падыйсці. Думаю, зразумее і не будзе гневацца. У далейшым, калі ўмовіцеся на спатканне, пастарайся прыходзіць, бо гэта паніжае другую асобу. Юзіку напэўна здалося, што ты яго патрактавала лёгкадумна.

**Сэрцайка**

**Куток практычных ведаў**

## ДЗІЦЯЧЫЯ КУРТАЧКІ

А вясна не за гарамі... У чым найлепш адчувае сябе вясной дзіця? Зразумела, у куртачцы, мяккай і цёплай, каб было зручна ў ёй хадзіць і гуляць. Але добра было б, каб была яна адначасова і модная.

Гляньце на куртачку хлопца! Унізе яна сцягнута на гумку, таксама і рукавы. Спераду вельмі модная кішэнь тыпу „кенгуру". Звярніце ўвагу на цікава змешчаныя гузікі. З-пад куртачкі можа выглядаць кашулька, а нават і хустачка, завязаная на шыі.

Дзяўчынка апранута ў больш лёгкую куртачку з мяккага трыкатажнага аксаміту. У таліі — аздобны гумовы паясок, такім жа матэрыялам аздоблена куртачка ля шыі і рукавоў.

**Сяброўка**





ПЫТАННЕ: А. прыгавораны на тры гады турмы. Яго злачынства было звязана з закаранелым п'янствам. Таму суд загадаў памясціць яго ва ўстанове для алкаголікаў. Часу знаходжання ў гэтай установе суд не акрэсліў. Як доўга могуць яго там трымаць? Ці час гэты будзе яму залічаны ў час зняволення, да якога ён прыгавораны?

АДКАЗ: Загадваючы скіраванне прыгаворанага на прымусовае лячэнне ў закрытай установе па лячэнню алкаголікаў, суд не акрэслівае часу знаходжання ў гэтай установе. Паводле артыкулу 102 § 2 карнага кодэкса, лячэнне працягваецца найменш 6 месяцаў, а найбольш 2 гады. Час гэтых

**§ Кансультацыя ЮРЫСТА**

залежыць ад вынікаў лячэння. Аб тым, ці даная асоба вылечана, вырашае грамадская лекарская камісія, якая знаходзіцца пры той антыалкагольнай установе. На аснове гэткай пастановы суд вырашае аб звальненні. Перад звальненнем суд вырашае, ці прыгавор выканаць. Суд мае права прызнаць, што выкананне прыгавору немэтазгодна. Аднак, калі суд загадае, што прыгавораны павінен адпакутаваць кару, час лячэння не бярэцца пад увагу. Гэта значыць, што А. можа быць прытрыманы ва ўстанове па лячэнню алкаголікаў два гады, а пасля знаходзіцца тры гады ў турме, а можа, калі суд прызнае за мэтазгоднае, кары ў турме зусім не адбываць.

Дарагі Астроне, сніцца мне, што я зайшла ў тэкстыльны магазін. Бачу: на прылаўку ляжыць чорная сукенка. Я стала яе аглядаць і бачу, што гэта не сукенка, а штосьці падобнае на спартыўны касцюм. Каўнер у чорна-белую клетку. І такім жа матэрыялам закончаны ніз касцюма. Мне вельмі гэты касцюм спадабаўся і я яго хацела купіць дачцы. Людзі таксама ім цікавіліся, але я сказала, што я куплю, а ў магазіне ён толькі адзін. І тут я агледзелася, што няма ў мяне кашалька з грашыма. Не ведаю, дзе я яго згубіла. Так і прачнулася.

М. В.

**ВЕР-НЕ-ВЕР**

Астроне, прыснілася мне дзяўчына, якую я кахаю, але ніяк не ўмею гэта ёй вызнаць. Быццам я сяджу за партай, і яна таксама прыйшла, і села каля мяне. Пасля я ўсё ж сказаў ёй аб сваім каханні да яе. Яна сказала, што ўжо ведала пра гэта і яна таксама мяне кахае. Мы рашылі спатыкацца і я яе правёў дамоў. Тады я прачнуўся. Яна мне снілася яшчэ два разы. Прашу цябе, Астроне, адкажы мне на гэты сон. З нецярплівасцю чакаю адказу.

Міша

**М. В.!** Нейкая знаходка цябе чакае, але будзе яна датычыць, бадай, тваёй дачкі.

**Міша!** Ты, відаць, яшчэ маладзенькі, і як будзе ў сапраўднасці, цяжка сказаць. Сон твой навеяны тваімі марамі і спадзяваннямі, але часамі ў жыцці бывае якраз наадварот, чым гэта чалавек сабе высніць. Думаю, што ўсё ўложыцца добра.

**Астрон**

**ТАЙНЫ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ**




## ПЫШНЫ БАНКЕТ

Вярнуўшыся з Пушкіна, дырэктар музея Альфрэд Родэ перадаў усе справы свайму намесніку, а сам заняўся Янтарным пакоем. У памочнікі ён узяў найбольш здольных работнікаў музея і некалькі мясцовых майстроў, якія з пакалення ў пакаленне займаліся апрацоўкай янтару і вырабам янтарных упрыгожанняў.

Работа патрабавала вялікага цярпення і выдатнага ведання справы. Доктар Родэ памятаў, што з-за недакладнасці стваральнікаў пакоя і з-за таго, што ён быў крыва ўманціраваны ў замку Манбіжу ў Берліне, некаторыя янтарныя пліты раскрышыліся. Цяжэй за ўсё было выбраць падыходзячую залу ў кенігсбергскім замку, такую, якая падыходзіла б пад пакой. Трэба было падумаць і аб вентыляцыі.

З часу свайго вяртання з Царскага Сяла Родэ быў рэдкім госцем дома. Дзеля пакоя ён адмовіўся ад тэатра, ад сваіх любімых сімфанічных канцэртаў; з жонкай бачыўся толькі раніцай і позна вечарам. Ён перастаў нават слухаць зводкі, якія перадаваліся па радыё.

Работа працягвалася некалькі месяцаў. Настала зіма, набліжаліся каляды. І вось неяк у сярэдзіне снежня 1942 года доктар Родэ пазваніў Коху.

— Пан рэйхкамісар, рады паведаміць вам, што работа закончана. Янтарны пакой гатовы да ўрачыстага адкрыцця.

Гэта быў вялікі дзень у карычневым Кенігсбергу. На ўрачыстае адкрыццё пакоя прыбыло каля сотні запрошаных: прадстаўнікі культуры і мастацтва і кенігсбергская знаць, відныя лідэры гітлераўскай партыі ва Усходняй Прусіі.

Велізарны сярэдневяковы гадзіннік прабіў шэсць разоў, у іх такт адчыняліся і зачыняліся маленькія дзверцы, з якіх выплывалі геральд і пастушкі, іграючы вясёлыя мелодыі. Калі змоўкнуў бой гадзінніка, дырэктар Родэ падышоў да Клары Кох і падаў ёй на сярэбраным падносе маленькія нажніцы. Яна разрэзала трохкаляровую стужку, якая сімвалізуе нямецкі флаг. Родэ ўзяў яе пад руку, і яны ўвайшлі ў Янтарны пакой.

Усе ахнулі. Сцены залы да самай столі былі выкладзены янтарнымі плітамі з багатай разьбой. Небывалай прыгажосці арнамент упрыгожваў столь.

Цішыню парушыў зычны голас бургамістра Кенігсберга Хельмута Віла:

— Панове, гэты цуд ацэньваецца ў пяцьдзесят мільёнаў долараў золатам. І тут жа змоўкнуў пад неадабральным позіркам Коха, перапалоханы гудзеннем уласнага голасу ў цішыні.

Прысутныя не спяшаючыся пакідалі залу, напаўголасу абменьваючыся ўражаннямі.

У вялікай параднай зале іх ужо чакалі расстаўленыя сталы. Усё гаварыла аб тым, што рыхтуецца пышны банкет.

Банкетаванне развязала языкі. Госці выказвалі захапленне прыгажосцю пакоя. Гаўляйтэр, горды тым, што гэты адзіны ў свеце твор знаходзіцца ў яго Кенігсбергу, раз-пораз абвяшчаў тосты.

— Ці праўда, што Янтарны пакой вось ужо амаль 250 гадоў праследуе пракляцце? — спытаў у доктара Родэ падвыпіўшы Кох. Забабонны гаўляйтэр апякаў усялякіх прадракальнікаў і шарлатанаў, да якіх пастаянна звяртаўся за парадамі.

Доктар Родэ адставіў бакал з бургундскім і задумаўся. Праз мінуту ён сказаў:

— Вядома, што Фрыдрых I быў вялікім прыхільнікам мастацтва. І вось ён пастанавіў пакінуць пасля сябе незабыўны след на дзіва нашчадкам. Гэта павінен быў быць рэдкі твор мастацтва. Ён адвяргаў усе праекты, пакуль яму ў галаву не прыйшла арыгінальная думка. Ён успомніў аб сваёй самай багацейшай у свеце кладоўцы „паўночнага золата" — янтару.

Ад Гданьска да Кенігсберга, і асабліва ў прыморскай паласе Самбійскага паўвострава, працягнуліся багацейшыя янтарныя россыпы. Ён выклікаў аднаго з найбольш таленавітых скульптараў таго часу, які быў яго прыдворным архітэктарам — Андрэаса Шлютэра. Яны доўга не маглі вырашыць, у што ўвасобіць задуму. Шлютэр параіў зрабіць з янтару кабінет імператара. Прапанова спадабалася манарху.

У памочнікі Шлютэр узяў вядомага ў Германіі і за мяжой янтарнага майстра Готфрыда Тусо. Падручнымі працавалі некалькі здольных гданьскіх і кенігсбергскіх рамеснікаў. Восем гадоў карпатлівай працы ўвянчаліся поспехам. Імператар радаваўся. Янтарны пакой, аднак нядоўга радаваў вока імператара. Надышла ліхая гадзіна. Вайна са Швецыяй падрывала сілы імперыі. На наш бок стаў рускі цар Пётр I. Дарэчы, асноўны цяжар вайны ляжаў на Расіі. Праз некалькі гадоў наш імператар памёр. Трон заняў Фрыдрых Вільгельм I, які ў знак дружбы запрасіў у Берлін Пятра I. У час наведання замка Манбіжу цар доўга не мог адарваць вачэй ад янтарнага цуда. Ён быў зачараваны. Фрыдрых Вільгельм, які ў адрозненне ад свайго бацькі большую частку бавіў з генераламі, а не ў мастацкіх салонах, каб схіліць да сябе госця, падарыў яму гэты шэдэўр.

Пакой перавезлі ў Пецярбург, а потым у Царскае Сяло. Там італьянскі архітэктар Барталамео Растрэлі размясціў пакой у адной з вуглавых залаў Кацярынінскага палаца. Пад яго кіраўніцтвам рускія майстры дапоўнілі кампазіцыю мазаікай з халцэдону, яшмы і люстэркамі.

*(Працяг будзе)*

Імпартгумар

# Званок з цэнтра

Сцяпан Пячурка ўжо склаў стосікам свае папкі і чакаў, калі можна будзе апрануцца і ісці дахаты. Была пятніца, і раённы начальнік радаваўся, што тыдзень „адцяляпаў“ без трывог. Начальства з вобласці не званіла, не прыязджала. Машыністка Галя на старэнькай „опціме“ друкавала даклад Пячурку, з якім ён збіраўся выступіць перад сваім калектывам. У канторы было ціха: адны работнікі разышліся, другія таміліся ў нудным чаканні, як і начальнік.

Раптам рэзка зазваніў тэлефон.

— Ого, — злякаўся Пячурка. — Вобласць?! — але трубку не зняў.

Узяла Галя.

— Ало, — далікатна азвалася яна, і тут жа, прыціснуўшы трубку да грудзей, зашаптала:

— Сам.

Пячурка схапіў у яе трубку.

— Пячурка слухае.

Трубка прывіталася.

— Добры дзень, Сідар Пятровіч, — сказаў Пячурка.

— Як справы? — запытала трубка.

— А нішто сабе.

— Рыхтуйся сустрэць чалавека, — прагучала трубка.

— Не першы раз, — вымавіў з хваляваннем Пячурка і запытаў:

— А на якім узроўні сустрэчу?

— На самым вышэйшым, — загадвала трубка.

— Значыць гэта, — разгубіўся зусім Пячурка, — не „казла“ на вакзал, а „Волгу“.

— Так, — пацвярдзіла трубка.

— Люкс у гасцініцы, вячэра ў каюце на два чалавекі. ящчэ што? — дапытваўся Пячурка.

— Рыбалка і экскурс на прыроду, — дадала трубка.

Пячурка выцер узмакрэлы лоб і залемантаваў:

— Сідар Пятровіч, не тамі душу, скажы: ці не рэвізор да мяне з цэнтра?

— Горш, — з адчаем адказала трубка і, памаўчаўшы хвіліну, дадала:

— Мая жонка.

— Ух, ліха, — з палёгкай уздыхнуў Пячурка і весела сказаў у трубку:

— Не сумнявайцеся, жонку начальніка сустрэнем на вышэйшым узроўні.

**Мікола Дубоўскі**



— *Гэта гіпнатызёр з нашага дома культуры.*



**...Так доўга нёс лухту, што надарваўся.**







— *Вешалка тут...*

З „Весніка Задрыпоніі“

**ГЭТА ЦІКАВА**

С. Я. у рабочы час не гуляе ў карты, не развязвае красворды, не курыць, не п'е і не ўдарае за жанчынамі. Справа ў тым, што вось ужо тры месяцы С. Я. нідзе не працуе.

**ГУМАР З БАРАДОЮ**

Прыбеглі людзі на пажар і бачаць: стаіць рукі ў бокі стары Антось каля гумна са збожжам і хоць бы што. А гумно гарыць — ужо і страха абвалілася.

Крычаць мужыкі:

— Чаго ты стаіш? Дабро ж тваё прападзе.

— Ага. Але ж тут і мышэй ляснула...

*Без слоў.*

**МІНІБАЙКІ**

**СЛУШНАЯ ЗАЎВАГА**

Электралямпа Сонцу
гаварыла:
— Я асвятліла ўсе куткі,
дзе курадыміў кнот!
А ты, вялікае свяціла,
Адно і ведаеш,
што свеціш
у акно.

**ДЗВЕРЫ І СЦЯНА**

— Не ты, а мы галоўныя
ў кватэры, —
Хваліліся Сцяне заўсёды
Дзверы. —
Нас кожны надта паважае:
Заўсёды першым ручку
паціскае.

**Д. Ісламаў**

**КАЛЕГА**

Кастусь з Парфенам, п'яненькія, гартаюць падручнік:

— Хто гэта? — спытаў Кастусь, паказваючы малюнак.

— Га-лі-лей, — адказаў Парфен.

— Хто ён?

— Вучоны. Адкрыў, што зямля круціцца...

— А-а-а-а, калега, значыць...

**ЯКІ ДОБРЫ**

— Мінулай ноччу ў маіх суседзяў было занадта шумна. Яны моцна крычалі і стукалі ў сцяну маёй кватэры.

— А чаму ты на іх не паскардзіўся?

— Ды яны мне асабліва не перашкаджалі. Я сядзеў сабе ціхенька за раялем і развучваў гамы...

**СЯМЕЙНАЕ ЖЫЦЦЁ**

— Я хацеў паведаміць вам, таварыш дырэктар, што я ўчора ажаніўся.

— Цудоўна! Віншую. Я вельмі цаню жанатых працаўнікоў. Яны вельмі ахвотна астаюцца ў канторы пасля працы.

**ПЕСІМІСТ**

— Тата, хто гэта песіміст?

— Гэта такі чалавек, дзіця, які не хоча даіць карову, таму што баіцца, што мала пракісла.

**НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ**

— Як хочаш, але больш грошай я табе даваць не буду, Роберт, — сказаў бацька сыну. — Пасля гэтага шлюбу ты для мяне мёртвы.

— Дай мне тады грошай на пахаванне.

*

Ля ўваходу ў метрапалітэн здорава падпіты чалавек прыстае да тых, што выходзяць:

— Скажыце, а там унізе цёпла?

— Цёпла, цёпла.

— А відна?

— Як днём...

— І паветра чыстае?

— Вы што, прыезджы?

— Ды не, я каранны жыхар, проста мяне туды ніколі не пускаюць!

*

Пакупнік — абразіўшаму яго прадаўшчыку:

— Вазьміце свае словы назад!

— Выбачайце, сеньёр, у нашым магазіне нічога не прымаюць назад. Мы можам толькі абмяняць на раўнацэнны тавар.




**ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ**

*Па просьбе дзяўчат са Спічак змяшчаем песню*

**DWA RAZY DWA**

**z repertuaru zespołu „Partita“**
**słowa: Jerzy Kleyny**
**muzyka: Antoni Kopff**

Gdzie ten świat uproszczony,
świat, co ma cztery strony,
białe dni, czarne noce,
świat najprostszy pod słońcem, słońcem,
słońcem...
Z zielonych lat,
gdzie ten pierwszy, najprostszy świat?...

Bo kto się zna, zna na świecie,
kto na nim się dobrze zna?
Kto pewien jest ile będzie
dwa razy dwa, dwa razy dwa, dwa razy
dwa?!

Tu dzień za dniem jak premiery,
nie zawsze wiesz, co się gra...
Nie zawsze już bywa cztery
dwa razy dwa, dwa razy dwa, dwa razy
dwa!

Któż wiedział, że samo życie
rozwiązań tak wiele da,
że jak na złość nam nie wyjdzie
dwa razy dwa, dwa razy dwa, dwa razy
dwa?

A jednak to ludzie cenią,
to nawet swój urok ma,
że w życiu, nie jak w mnożeniu,
dwa razy dwa, dwa razy dwa, dwa razy
dwa...

Dziś śmieszy nas, tylko śmieszy
ktoś, co to się niby zna,
a chciałby świat tak wymierzyć:
dwa razy dwa, dwa razy dwa, dwa razy
dwa!

Czy to cztery, dwa razy dwa?



— *Я яшчэ ніколі не бачыў такога крыўдлівага сабакі!*




**СМЯРДЗЮЧАЯ ЗБРОЯ**

Рабаванне адзінокіх прахожых па вуліцы ў вячэрнія часы, гвалтаванне беспаможных жанчын даўно стала звычайнай з'явай у буйнейшых гарадах капіталістычных краін. І тут нельга спадзявацца на дапамогу. Бандыты заўсёды маюць імкненне напасці знянацку. Адно збаўленне ад такой біды — гэта не выходзіць з кватэры. Ну, а калі трэба вяртацца з работы прыцемкам?

Нядаўна адзіночным прахожым прапанавалі своеасаблівую выратавальную зброю супраць рабаўнікоў канадскі хімік Пауль Лебланд. Гэта — невялічкая капсула, якая ўтрымлівае смярдзючае сінтэтычнае рэчыва накшталт таго, што, абараняючыся ад ворагаў, выдзяляе маленькі звярок скунс. Капсула непрыкметна замацоўваецца дзе-небудзь каля крысо паліто, пінжака ці ў дамскай сумачцы, і дастаткова толькі націснуць кнопку, як на таго бандыта, што стаіць перад табою, ліне густы струмень пэўнай вадкасці. І яму ўжо стане не да рабаўніцтва, бо вадкасць едкая, мае вельмі непрыемны пах і, да таго ж, амаль не змываецца, што дае магчымасць пераўнаўча лёгка адшукаць злачынцу.

Ужо ў мінулым годзе па ініцыятыве некаторых прадпрыймальнікаў выпушчана больш 60 мільёнаў такіх капсул пад назвай Ранель. Многія людзі з вялікай удзячнасцю ўзнагароджваюць Паўля Лебланда, асабліва прадстаўніцы слабой паловы чалавечага роду, набываюць гэтую бяскрыўдную зброю і лічаць, што яна мае сур'ёзную перавагу над агнястрэльнай.




**Камень за пазухай — нядрэнны матэрыял для кар'еры.**